Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 4000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 48.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 8000 мк., сярод тэксту 7000 м. і на 4 стр. 6000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 14. Вільня, Нядзеля, 30-га верасьня 1923 г. Год I.

## Memento.

Уся работніцкая прэса Польшчы ў вострых словах кляймiць палітыку польскага ўраду ў адносінах да работнікаў—у сувязі з крывавай катастрофай у капальні Радэн.

Як піша „Robotnik", некалі—*пад уладай царскай Расеі*—улада наездчыкаў пільна глядзела за тым, каб *польскім* работнікам забясьпечыць магчымасьць працаваць у капальнях бяз страху за сваё жыцьцё. Істнавалі адмысныя правілы і інструкцыі ў гэтым кірунку, ад якіх гаспадары капальняў не маглі ўхіляцца: за гэтым глядзелі спэцыяльныя ўрадовыя чыноўнікі. — *Польскі-ж урад*—свой, родны,—у адносінах да *сваіх-жа работнікаў-палякоў* аказаўся непараўнана горшым: старая ўрадовая апека над бясьпечнасьцяй працы ў капальнях зусім пакінута, і справа абароны жыцьця і здароўя капальняных работнікаў аддадзена безкантрольна ў рукі прадпрыемцаў,—а тыя, ведама, рупяцца не аб работніках, а аб чым вялікшыя зыскі...

Вострыя словы абвінавачаньня кідае „Robotnik" пану Вітасу і ягонаму ўраду, бачучы ў радэнскай катастрофе праяву *адносінаў улады да працоўных масаў наагул.* І з гэтым нельга не згадзіцца. Але трэба адзначыць, што адносіны ўлады да працоўнага народу сталіся такімі, як яны ёсьць, не цяпер, не ў мамэнт пераходу гэнае ўлады да эндэцка-кулацкае большасьці Сойму: яны ўкладаліся ў працягу гадоў—ад пачатку істнаваньня Польскага гаспадарства. І адказнасьць за тое, што ёсьць цяпер, ляжыць ня толькі на польскіх капіталістах, ня толькі на польскай буржуазіі, што ўвесь час імкнулася да паняволеньня работніцкае клясы, нясучы ей, замест праўдзівае асьветы, як выразіўся сэнатар Новак, толькі чадзячую лаёўку... Бо разам з буржуазіяй дзялілі йшчэ так нядаўна дзяржаўную ўладу і польскія сацыялісты з партыі P. P. S. у асобе лідэра яе Дашыньскага, бо ўсей дзяржавай кіраваў, як начальнік гаспадарства, былы сябра тэй-жа партыі, Пілсудскі, бо лёзунгам гэтае-ж партыі была і ёсьць *угода з буржуазіяй*—у імя наіўна тлумачаных інтарэсаў дзяржавы. Бо партыя P. P. S. закладала фундамэнты польскае „дэмакратычнае" рэспублікі разам з панамі-абшарнікамі і фабрыкантамі і сваей склоннасьцяй да кампрамісаў, да „сьвятое згоды" з ворагамі працоўнага народу дапусьціла да таго, што да Польшчы можна з поўнай справядлівасьцяй аднесьці вядомае іранічнае азначэньне „дэмакратычнае рэспублікі", дадзенае расейскім паэтам Маяковскім:

*аднаму—бублік,*
*другім—дзірка ад бубліка!*

Такую іменна „дэмакратычную рэспубліку" будавалі самі польскія сацыялісты, хаця на першай страніцы сваіго лейб-органу напісалі кліч: „Niech żyje rząd robotniczo-włościański!" І плады гэтае палітыкі кіраўнічае партыі польскага пралетарыяту працоўныя масы Польшчы прымушаны цяпер пажынаць, плоцячы за гэту палітыку жыцьцём дзесяткаў бязьвінных ахвяр....

Няхай-жа радэнскія ахвяры паслужаць грозным „memento!" для кіраўнічых арганізацыяў польскіх работнікаў, няхай пакажуць усім працоўным, і так ужо нацярпеўшымся ад „радзімае" буржуазіі, куды вядуць усе кампрамісы з ёю, робленыя ў імя „*адзінасьці нацыянальных інтарэсаў*",—адзінасьць, якая выражаецца ў уціску нацыянальных меншасьцяў і сяганьні па зямлю беларускага і украінскага селяніна, замест падзелу зямель „сваіх" польскіх абшарнікаў.

Няхай пралітая ў падземных лёхах Радэна работніцкая кроў напоіць чырвonaю сваей польскі работніцкі чырвоны сьцяг, што так страшэнна пабляеў за апошнія гады будаваньня „дэмакратычнае" рэспублікі Польшчы.

Няхай катастрофа ў Радэне напомніць усім працоўным аб іх ролі ў жыцьці гаспадарства, няхай збудзіць у іх сьвядомае жаданьне заняць урэшце тое палажэньне, якое ім паводле ўсіх людзкіх і боскіх правоў прыналежыць.

„Memento!".

**К. Фалькевіч.**

## Міжнародны кангрэс кабечай Лігі Міру і Вольнасьці.

На апошнім міжнародным кангрэсе „Лігі Кабетаў Міру і Вольнасьці" ў канцы прошлага году ўтварылася *сэкцыя Усходняе Эўропы*, якая мае мэтай злучыць у імя супольных інтарэсаў ўсе народы Усходняе Эўропы.

Дагэтуль злучыліся ў прадстаўніцтве палякі, чэхі, славакі, аўстрыякі, украінцы.

Усе яны лічаць найважнейшай справай—абарону правоў нацыянальных меншасьцяў у тых дзяржавах, дзе яны жывуць.

Ад Польшчы дэлегаткай была вядомая добра мінчукам-беларусам з найлепшага боку шчырая дэмакратка, вядомы польскі філёзоф позытыўнага напрамку пані Кодісова, якая апрацавала і мела на кангрэсе рэфэрат, прынцыповыя палажэньні якога былі прыняты аднагалосна.

Вось гэтыя тэзы.

1. Каб ніякая дзяржава, якая не забясьпечыць правоў і вольнага культурнага разьвіцьця сваім нацыянальным меншасьцям, не магла быць прынята ў Лігу Народаў. (Ой, трапічыць кандыдатура Скірмунта ў Раду Лігі).

2. Каб суседзкія дзяржавы парабілі паміж сабой асобныя ўмовы, забясьпечываючы сваім меншасьцям вольнае разьвіцьцё на падставе ўзаемнасьці.

3. Каб нацыянальныя меншасьці трымаліся лёяльна ў адносінах да дзяржаваў, ў якія ўвайшлі.

Сэкцыя Усходняе Эўропы займецца апрацаваньнем усіх пытаньняў аб меншасьцях, досьледам ўсіх трактатаў, датычучых іх, каб выкарыстаць ўсе магчымыя праўныя шляхі да абароны іх правоў апрацаваньнем абшырнага матар'ялу, паступіўшага ў форме адказаў на разасланую нядаўна анкету.

У дакладах, ў якіх быў часткаю выкарыстаны гэты матар'ял, падчырківалася тое, аб чым мы колькі разоў ўжо пісалі:—тыя самыя народы, якія скардзяцца на ўціск дзяржаваў, дзе яны жывуць як меншасьці, ў сваіх дзяржавах, дзе яны зьяўляюцца дзяржаўнай большасьцю, яны бязсумленна цісьнуць свае меншасьці...

Церпяць югаславяне, як меншасьці ў Італіі, але ня лепей, калі ня горай—баўгары ў Югаславіі і г.д..

Характэрна тое, што Польшча, як піша сам кор-т газ. „Kur. Polski", „была папросту засыпана закідамі са стараны украінцаў"...

Можам толькі пашкадаваць, што ня было на кангрэсе беларусаў, якія таксама мелі-б што дадаць да гэтых „конфэтті" украінцаў.

Карэсп. „Kur. Pol." наіўна дадае, што гэтае цяжкае палажэньне Польшчы заўсёды бывае ўва ўсякіх міжнародных палітычных арганізацыях, бо Польшча „чамусьці" мае ўжо гэткую „апінію" „захланнасьці"...

Што-ж газэта радзіць Польшчы, каб зьмяніць гэтую „міжнародную апінію"?.. Радзіць адзін з паноў ў эўрапэйскім цыліндры... не перамену адносінаў ураду да сваіх меншасьцяў, але... „лепшую арганізацыю заграніцнай прапаганды"...

---

Даведаўшыся аб гэтым кангрэсе, трэба нам беларусам неадкладна навясьці ўсе спраўкі аб ім і ўвайсьці з яго арганізатаркамі ў бліжэйшыя адносіны, а, калі здалеем, дык паслаць зараз-жа прадстаўніцу на кангрэс.

Гэта Ліга для нас, недзяржаўных народаў, зьяўляецца важным і канешна патрэбным *дапаўненьнем Лігі Народаў*, якая ў запраўднасьці *ня мае права на гэтае названьне, бо зьяўляецца ня Лігай Народаў, але Лігай Дзяржаваў...*

Беларускі Нацыянальны Камітэт, які толькі што ўзнавіў сваю дзеяльнасьць, павінен неадкладна заняцца гэтай пільнай і важнай справай.

**С.**

## Палітычныя падзеі.

### Капітуляцыя Нямеччыны.

Нямеччына зраклася пасыўнага праціўленьня француськім акупантам у Руры—вось найважнейшае здарэньне апошніх дзён.

Паўгоду пераможаны злучанымі аружнымі сіламі чуць ня ўсяго сьвету нямецкі народ змагаўся з беззаконным захватам французамі ягонае зямлі. Паўгоду насяленьне Рурскае краіны спыніла ўсю грамадзкую работу, кінула працу ў капальнях, фабрыках, чыгунках, каб ня даць магчымасьці ворагу выдзіраць з краю яго скарбу—каменнага вугальля, асновы ўсяе прамысловасьці Нямеччыны. І ні арышты, ні мільярдныя штрафы, ні высылкі і нават растрэлы акупантамі больш гарачых абаронцаў рурскіх нацыянальных скарбаў ня здолелі зламаць духа праціўленьня нямецкіх народных масаў, як не зламалі яго ні голад, ні холад, ні безработцье...

Запраўды, гэную безкроўную барацьбу нямецкага народу з чужацкай акупацыяй ягонае зямлі можна прыраўнаваць па велічы і ахвярнасьці хіба да тае барацьбы, якую ў самым пачатку сусьветнае вайны вёў з нямецкай акупацыяй бэльгійскі народ. Толькі, скажа чытач, бэльгійскі народ у канцы канцоў аказаўся пераможцам, а немцы?!..

На наш пагляд, ня гледзячы на капітуляцыю, немцаў нельга лічыць пераможанымі. Пасыўнае праціўленьне трывала датуль, пакуль дзяржава мела магчымасьць карміць насяленьне Руры. Але для Нямеччыны прыйшлі дужа цяжкія дні фінансавае катастрофы,—і далей карміць рурскіх праціўленцаў аказалася немагчымым. І вось, нямецкі Урад адкінуў тое аружжа, якое ўжо прытупілася ў руках барацьбітаў і якім немагчыма далей карыстацца. Так правадыр арміі, убачыўшы, што нельга больш бараніць занятае пазыцыі, кідае яе і пераходзіць на другую. І гэтага йшчэ нельга разглядаць, як перамогу ворага.

Вось-жа і Францыі рана йшчэ цешыцца з перамогі яе грубае фізычнае сілы над стойкасьцю нямецкага духа. Пад уплывам становішча Англіі, якая ў далейшым зацягіваньні рурскае барацьбы бачыла пагрозу для эканамічнага жыцьця ўсяе Эўропы, Францыя прымушана, хоць гэта пільна ўкрывае пад ваяўнічымі выкрыкамі, значна „памягчэць" у сваіх дамаганьнях ад Нямеччыны. І ўжо гэта—пабеда рурскіх праціўленцаў, хаця йшчэ нявідочная для масаў.

**Аль.**

### ПОЛЬШЧА.

За перадрук з „Kurjera Polsk." заметкі аб маючай адбыцца дысьлёкацыі вайсковай сканфіскованы кракаўскія часопісі: „Naprzód", „Reforma Krakowska", „Codzienny Kurjer Ilustrowany", „Głos Narodu" і, „Czas"

---

Адбылося паседжаньне эканамічнага камітэту Рады міністраў. Міністар фінансаў Кухарскі рабіў справаздачу аб перагаворах у справе заграніцнай пазычкі. Пасьля гэтага адбылася дыскусія. З высьненьняў п.

# РАБОТНІКІ-БЕЛАРУСЫ! Сяньня усе йдзеце на выбары у Раду Касы Хворых і галасуйце на сьпісак № 6.

Кухарскага выявілася, што варунві пазычкі надта цяжкія.

Ходзяць чуткі, што амэрыканскія і ангельскія фінансісты гатовы вясьці з Польшчай перагаворы на падставе заставаў альбо прадажы нярухомай дзяржаўнай маемасьці, альбо даходаў з таможняў ці манаполяў. Дзеля гэтага Кухарскі не зрабіў ніякіх умоваў з заграпічнымі капіталістамі і вярнуўся ў Варшаву, каб паразумецца з сваімі калегамі і правымі партыямі.

„Express Poranny“ паведамляе, што ў м. Островіт у Мінска-Мазавецкім павеце забіты пасол Сойму эндэк Садовскі.

### Падаркі абшарнікам.

У часе, калі міністрам фінансаў быў В. Грабскі, абшарнікам быў даны крэдыт у злотых польскіх, калі іх курс быў 7.500 мк. Настаў тэрмін сплаты пазычкі, калі курс злотага быў ужо 40.000 мк. Але тады абшарнікі заявілі, што ня думаюць выпаўняць сваіх абавязкаў. Ясна, што за ўраду Хьена-Вітаса воля абшарнікаў—сьвята. Пан Ліндэ палічыў абшарнікам злоты польскі не па 40.000 мк., але на 30.000. Мала таго. Выплаты прадоўжаны на некалькі месяцаў, каб абшарнікі маглі заплаціць доўг тады, калі марма яшчэ больш абнізіцца.

Вось-як адбываецца аздараўленьне фінансаў за Хьена-Вітасаўскім урадам.

### Суд над украінскімі „сабатажнікамі“.

„Громадський Голос“ паведамляе аб адбыўшымся 18, 19 і 20 верасьня „даразным судзе ў Злочове над 15 так зв. украінскімі сабатажнікамі. Абвінавачваў пракурар Блонскі, старшыня суду—Стравінскі. Акт абвінавачаньня ставіў у віну Сьцяпану Воўку, што ён зарганізаваў гурток сабатажнікаў, а ўсім іншым учасьце ў падпаляньні дзьвёх—трох сьціртаў збожжа на фальварку ў Сновічух і Млынаўцах. На судзе зноў выявілася дзікае павядзеньне паліцыі з арыштаванымі. У часе судовага сьледства старшыня адкінуў шмат прапазыцыяў і пытаньняў з боку абароны, чым утрудніў абарону. Абарона змушана была зьвярнуцца да міністра справядлівасьці аб зьмене старшыні Стравінскага, але бяз посьпеху. Даразны суд перадаў Сьцяпаня Воўка звычайнаму суду, каб дасьледзіць яго ўмысловасьць, засудзіўшы Ілька Скочыліса, Міколу Каваля і Алекса Паўлішына на сьмерць. Усіх іншых засуджана на 20—10 гадоў цяжкага вастрогу, аднаго на 5 гадоў. Усе падсудныя прынялі прысуд спакойна. Просьбы аб уласкавеньні прэзыдэнт Войцэхоўскі ня прыняў пад увагу. А 3 гадз. па паўдні на замковым панадворку адбылася экзэкуцыя. Першым стаў Скочыліс. З воклікам; „Хай жыве Украінска Дзяржава!“—упаў пранізаны кулямі. З тым-жа воклікам упаў і Каваль, якога на мейсца казьні пад руку падвёў д-р Ганкевіч. Апошнім пашоў на сьмерць Паўлішын, які, пацалаваўшыся са сваім баронцам д-рам Хамінскім, загінуў з воклікам: „Гіну за украінскую справу!“ Усе абвінавачаныя і расстрэленыя—гэта малазямельныя і безьзямельныя сяляне.

### НЯМЕЧЧЫНА.

Урад выдаў загад, каб ўсе дзяржаўныя ўлады і чыноўнікі Рэспублікі ў выпадку забурэньняў выпаўнялі загады толькі агульна-рэспубліканскай улады.

З Баварыі надыходзяць трывожныя весткі. Як чуваць Людэндорф абняў галоўнае доводзтва над фашыстаўскімі баёўкамі і замяраецца ісьці на Бэрлін. Людэндорф мае пад сваім загадам каля 15.000 жаўнераў. Лічацца з тым, што як толькі будзе апублікавана спыненьне пасыўнага спраціўленьня ў Руры, Людэндорф пойдзе на Бэрлін. Людэндорф мае замер заняць таксама і Саксонію.

Камуністычная газэта „Rote Fahne“ зачынена на два тыдні за надрукаваньне артыкулаў, абражаючых канстытуцыю Нямецкай Рэспублікі і сябраў ураду.

Прэзыдэнт Нямецкай Рэспублікі выдаў праклямацыю, падпісаную ім і ўсімі міністрамі аб спыненьні пасыўнага спраціўленьня. Вось яе зьмест:

11-га студня французкія і бэльгійскія войскі супраць права і трактату занялі нямецкія абшары ў Рурскім басэйне. Ад гэтага часу жыхары тэрыторыі Руры і Надрэніі прымушаны былі пераносіць найбольшыя цярпеньні. (Тут пералічаюцца ўсе крыўды людпасьці).

Даўнейшая вытворчасьць абшару Надрэніі і Руры спынілася. Гаспадарчае жыцьцё ў Нямеччыне замёрла і выяўляе развал. Пагражае паважная і вялікая небясьпека, што ў выпадку далейшага трываньня Нямеччыны на дасюлешнім шляху немагчыма будзе стварыць упарадкаванай валюты і падтрыманьня гаспадарчага жыцьця, а праз гэта і забесьпячэньня будучага істнаваньня народу. Небясьпека павінна быць усунута ў інтарэсе будучыны Нямеччыны, у інтарэсе Рурскага басэйну, і інтарэсе Надрэніі. Каб утрымаць жыцьцё народу і жыцьцё дзяржавы, стаімо сяньня перад неабходнай канешнасьцю спыненьня барацьбы. Ведаем, што гэтым самым вымагаем ад жыхароў акупаваных тэрыторыяў яшчэ большых маральных цярпеньняў, чым дагэтуль. Найважнейшым заданьнем ураду будзе старацца аб тое, каб былі звольнены арыштаваныя, а выселеныя грамадзяне вярнуліся да сваіх дамоў. Нямеччына аб'вяшчае гатоўнасьць нясьці найцяжэйшыя матар'яльныя ахвяры для свабоды нямецкіх грамадзян. Свабода гэтая аднак не зьяўляецца для нас прадметам перагавораў і абменнага гандлю. Прэзыдэнт і Ўрад Рэспублікі гэтым завяраюць нямецкі народ і ўвесь сьвет, што ніколі ня згодзяцца ні на якую ўмову, якая-б хаця-б найменшую частку нямецкай зямлі адарвала ад Рэспублікі,

У руках акупацыйных дзяржаў і іхных заюзьнікаў ляжыць, ці праз прызнаньне гэтага пагляду Нямеччыны жадаюць яны прынясьці мір, ці адкідаючы гэты пагляд выклікаць тыя вынікі, якія могуць наступіць у міжнародных адносінах. Заклікаем нямецкі народ, каб у надыходзячы пэрыяд найцяжэйшай духоўнай і матар'яльнай спробы застаўся солідарным. Толькі гэткім спосабам зьніштожым усе замеры падзелу рэспублікі, толькі гэткім спосабам утрымаем гонар і жыцьцё народу, толькі гэткім спосабам зьвернем свабоду, якая ёсьць нашым непрадаўняным правам.

### Нямецкія камуністы ў Маскве.

Корэспондэнт „Kur. Polsk.“ паведамляе, што ў Маскве прабываюць правадыры нямецкіх камуністаў, дзе адбываюцца нарады Камуніст. Інтэрнацыяналу ў справе будучай тактыкі камуністаў у Нямеччыне. Комінтэрн нездаволены становішчам нямецкіх камуністаў і даў ім інструкцыі, каб шукалі паразуменьня з левым крылом сацыялістаў і проф. саюзамі, каб узгодніць акцыю, калі прыдзе час аканчальнай барацьбы.

### БАУГАРЫЯ.

„Prager Presse“ паведамляе, што з Баўгарыі надыходзяць весткі, што змаганьне паміж камуністамі і сялянамі з урадовымі войскамі трывае далей. Рэвалюцыйны рух умацоўваецца. Урадовыя войскі высланы з Софіі ў глыб краю. Баўгарскі рух змабілізаваў расейскіх манархістаў, якія пад кіраўніцтвам гэн. Вістоўскага і Турка атрымалі даручэньне бараніць Софію ад камуністаў. Адначасна ўрад змабілізаваў македонскія арганізацыі да барацьбы з паўстанцамі. Чыгуначная камунікацыя пярэрвана. У апошні мамэнт баўгарскі ўрад, каб уратаваць палажэньне, назначыў гэн. Вукоўскага дыктатарам.

„Daily Express“ паведамляе аб далейшых удачах камуністычнага паўстаньня. Згодна з інфармацыямі гэтай газэты ўрад Чанкова мае пад сваім загадам толькі 20.000 аружных людзей. Да Варны і Люнебургасу прыбыло шмат аружжа з Радавых Рэспублік для падтрыманьня паўстанцаў.

Згодна з паведамленьнямі корэсп. заграпічных газэтаў паўстанцы з паўднёвай Баўгарыі ідуць на Софію. Кароль прыняў адстаўку кабінэту Чанкова. Сабраньне (Сойм) распушчана.

### АНГЛІЯ.

У Англіі ў кастрычніку г. г. адбудзецца імпэрская конфэрэнцыя, у якой побач з Англіяй, Канадай, Аўстраліяй, Новай фунляндыяй, Новай Зэляндыяй, Паўднёвай Афрыкай возьме першы раз учасьце і Ірляндыя. Конфэрэнцыя будзе займацца справаю нямецкіх адшкадаваньняў, зьбліжэньня з Амэрыкаю і справаю абароны дзяржаўных граніцаў.

### АМЭРЫКА.

Злучаныя штаты апрацоўваюць вялікі плян абароны, які абпічаны на 20 гадоў, і які будзе каштаваць 32 мільярды фунтаў штэрлінгаў.

## Шляхам катастрофау.

(*Сусьветнае значэньне японскае катастрофы*).

Нябывалай велічыні катастрофа, якую пацярпела Японія, мае грамаднае значэньне ня толькі для самога пацярпеўшага краю, але й наагул для ўсяго сьвету.

Перад усім трэба ведаць характар і разьмеры тэй бяды, што здарылася з японскім народам.

Бяда зроблена ўзнавіўшайся дзейнасьцяй патухшых было ўжо вульканаў, праз якія, як з вялізарных жаралоў, бурна пацякла з глыбіні зямлі, быццам з „пекла“, гэтак званая „лява“, палючы на сваім шляху ўсё, затапляючы сваім „плынным агнём“ цэлыя месты і вёскі...

Але йшчэ горш тое, што гэтае ўзнаўленьне дзейнасьці быццам спаўшых і толькі сапеўшых ўва сьне вульканаў (яны так і завуцца „сопкамі“) адазвалася на ўсіх востравох, на якіх разьсялілася Японія, нябывалым па свасй сіле і працяжнасьці трасеньнем зямлі.

Пры гэтым трасеньні зямля ўся дрыжыць і калышацца пад нагамі, а пры мацнейшых ударах дык нават трэскаецца, як ссохшы глей... Ад гэтага робяцца такія вялікія па шырыні і глыбіні шчыліны, што ў іх правальваюцца ня толькі вялікія шматпаверхавыя каменіцы, але й цэлыя пасяленьні...

Каб прадставіць сабе разьмеры апошняга землятрасеньня, трэба сказаць, што ў першы дзень налічана 216 моцных падземных удараў, на другі дзень—56...

У Японіі, дзе гэтыя трасеньні зямлі—зьявішча досыць звычайнае, спакон вякоў будавалі толькі лёгкія дамкі ці хаткі—літэральна з галін (бамбука) і паперы...—бо ў такіх хатках менш небясьпекі ад абвалаў пры трасеньні зямлі.

Але гадоў таму з 50 пачалося і ў Японіі разьвіцьцё эўрапэйскай культуры. Стала хутка расьці прамысловасьць,—заводы, фабрыкі; пачала разьвівацца, як кажуць капіталістычная гаспадарка.

І праз якія 30 гадоў з нейкага мангольскага народцу Японія зрабілася, дзякуючы надзвычайнай энэргіі, вытрываласьці і працавітасьці народу, аднэй з наймацнейшых вялікіх дзяржаў сьвету.

І ўжо ў 1895 г. Японія пачулася на столькі моцнай і „эўрапэізаванай“, што пусьцілася ў вядомую „кітайскую авантуру“, меўшую мэтаю ваенны падбой кітайскага народу.

Авантура скончылася няўдачаю, бо ўсе вялікія дзяржавы аб'ядналіся, каб недапусьціць да гэткага „ўсіленьня Японіі...

Але ўжо праз 10 гадоў, у значнай меры пры дапамозе Англіі, Японія здалела пабіць нават Расею, якая лічылася наймагутнейшай ваеннай дзяржавай на зямлі...

Але, каб завясьці ў сябе ўсе тое, што ёсьць у Эўропе, што становіць магутнасьць апошняй, Японія павінна была будаваць *на сваей зямлі* гэткія самыя вялізарныя гмахі—дамы, заводы, фабрыкі, вэрфі, (фабрыкі дзе будуюць караблі) і г. д.

І вось прырода Японіі, *яе вямля*—як быццам памсьцілася за гэтую „здраду“ сабе з боку японскага народу...

І гэтак запраўды кажуць вельмі чысьленыя ў Японіі прыхільнікі „добрых даўных часаў“, захаваўшыя вернасьць тэй рэлігіі, якая забараняла калісь народу пераймаць чужыя звычаі, чужую культуру, сьцерагучы яго ад „гневу багоў“...

І быццам папраўдзе родная Маці-Зямля — выляцеўшым з глыбіні гнеўнага сэрца агнём папаліла і, разьзявіўшыся бяздоннымі шчылінамі, паглынула сваіх саграшыўшых здрадай дзяцей...

Папаліла і паглынула *якраз толькі тыя самыя месты і райёны, у якіх найбольш умацавалася і разьвілася гэтая чужая — эўрапэйская культура...*

Але-ж усё гэта, як мы казалі, тлумачацца і вельмі проста: тое зямлятрасеньне, што лёгка вытрымае малы бамбукава-паперовы дамок, разваліць зусім і сьпіхне ў пропасьць шчыліны вялізарны гмах у колькі дзесяткаў паверхаў, на'т збудаваны спэцыяльна—проці зямлятрасеньня—з бэтону і сталі...

Японскі народ запраўды панёс нейкую кару, бо праз адзін ці два дні аказаўся пазбаўленым ня толькі вялікай часткі пладоў напружанай працы гэтых 50 гадоў уплыву эўрапэйскай культуры.

Больш мільёну людзей згінула ў зямлі, забіта ці пакалечана; больш 2 мільёнаў асталося бяз даху над галавой... Зусім зьмецена з зямлі—праваліліся ў „пекла“ каля паўтара дзесятку вялікіх і малых гарадоў... Сталіца Японіі Токіо зьнішчана амаль на трэць. Найвялікшы пасьля яе горад Іокагама, як пішуць радавыя газэты, згінуў зусім, бо ўвесь бераг з местам і ляжачымі навакол яго вёскамі і мястэчкамі праваліўся пад ваду, а замест яго паблізу высунуўся з пад вады новы востраў... Найвялікшы порт — ваенна-марская база Японіі Якосука, з усімі сваімі колёсальнымі пабудаваньнямі амаль зусім ня істнуе...

Як пішуць радавыя газэты, стратаў ад гэтай бяды налічаюць да 50 мільярдаў „іенаў“ (іена вартасьцяй роўная даляру),—гэта больш як 15 мільёнаў мільярдаў польскіх марак...

З Вялікай вайны Японія выйшла значна павялічыўшы сваю моц, бо, не рабіўшы амаль ніякіх ахвяраў, атрымала за „маральную дапамогу“ вялікія тэрыторыяльныя і іншыя карысьці.

Цяпер Японія, апрача сваіх адвечных вастравоў, мае—Карэю, Сахалін (фактычна ўвесь), Формозу, вастравы Ріу, Банін, архіпэлагі (групы вастравоў) Мар'янскі, Каралінскі, частку Маршальскага,—усяго з 76 міл. жыхароў.

Японія ўжо пачулася было на столькі моцнай, што не пабаялася, апіраючыся на Саюз з Англіяй, схапіцца ў імпэрыялістычнай конкурэнцыі нават з найбагацейшай у сьвеце „прамысловай імпэрыяй“—Амэрыкай...

Але, калі перад Вашынгтонскай конфэрэнцыяй Вялікай Брытаніі прыйшлося выбіраць сабе аканчальна прыяцеля і саюзьніка паміж двух ворагаў-конкурэнтаў, дык старая Англія, з уласьціваю ёй неабмыльнасьцяй свае палітычнае інтуіцыі, выбрала *Амэрыку, адмовіўшыся ад аднаўленьня саюзу з Японіяй*,—як быццам прадбачучы някрэпкасьць таго, што гэтак баечна-хутка вырасла ў такую, здавалася-б, магутную моц...

Сіла і небясьпека Японіі была, апроч яе ваенна-марской моцы,—у тым, што Японія, стаўшы зусім эўрапэйскай, стала на чале „нявідзімай коаліцыі“ азіяцкіх народаў проці Эўрапэйцаў, ула-

вытадку, калі ён прабывае на тэрыторыі павету, да якога належыць ягоная гміна. Устава аднак упаважняе Міністра ўнутраных спраў расьцягнуць гэтае правіла і на вёскі.

27 верасьня пасол Рак-Міхайлоўскі наладзіў у м. Лоску, Воложынскага павету справаздаўчы мітынг. Сабрана ахвяраў на прэсовы фонд 171.000 м. п.

**Хлеб зноў падаражэў.** Ад 21 верасьня саюз пекараў тры разы мяняў таксу на хлеб. Ад 27 верасьня выстаўлены новы цэньнік: чорны хлеб — 3.500 мк., сталовы 1 гат.—5.500 мк. 2 гатунку—5.000 мк., белы—6.000 мк., белы пірог 1 гатанку—13.000 мк.

# Весткі з вёскі.

## ЛУНІНЕЦ.

16 верасьня асьвячалі новапабудаваную станцыю ў Мікашэвічах (пав. Лунінецкі). Ужо аддаўна было вядома, што на гэтую ўрачыстасьць прыедзе біскуп Лозінскі. Тутэйшыя работнікі даведаліся аб гэтым ад прадстаўніка тутэйшага староства, „начальніка райёну“, які пускаў чуткі, што „пасол Воліцкі рабіў тут мітынгі, бо мае прыехаць біскуп і дзеля гэтага намаўляе работнікаў да забастоўкі — але яны, як каталікі, не павінны баставаць“, г. зн., што павінны, згодна з радай п. начальніка, „бацькі свайго райёну“ (як зазвычай кажа ён аб сабе), даць эксплёатаваць сябе хэўры капіталістаў фірмы „Agarchel“.

Перад прыездам біскупа быў утвораны „камітэт прыняцьця“, да якога, натуральна, ўвайшлі мясцовыя верхаводы з панам Бараноўскім, служачым фірмы „Agarchel“ на чале. Пасыпаліся шчодрыя ахвяры на пакрыцьцё „коштаў прыняцьця“, сяляне аддавалі сыр, масла, яйца, а нават сьвіней, мясцовая інтэлігенцыя—грошы, нават жыд Рубін на прыняцьце біскупа ахвяраваў мільён, бо ён хацеў сваей „філянтропіяй“ затушаваць надужыцьця адносна сваіх работнікаў у лясных прадпрыемствах, на чале якіх ён стаіць. Бо гэта-ж ён за тры дні перад прыездам біскупа выкінуў на брук 50 работнікаў, не адмовіўшы ім загадзя працы, як „бунтаўшчыкоў“ і „небясьпечных“.

Сама урачыстасьць адбылася дужа коратка, але за тое пасьля выезду біскупа „разрадавалася душа“. Камітэт сабраўся ў камплекце, далучаючы яшчэ „начальніка райёну“ камэнданта паліцыі ў Мікашэвічах Кушку, вядомага яшчэ з дзейнасьці ў Лунінцу, уласьніка шынку, які прыбыў на урачыстасьць у афіцэрскім мундзіры. Затрымалі ваенны аркестр, які прыехаў сюды спэцыяльна для спатканьня біскупа і гулялі пад яго гукі да самага ранку у зусім непрызваіты спосаб.

Досыць сказаць, што музыканты на другі дзень у кустох шукалі сваіх інструмэнтаў. Астаўшаяся піва прадалі сялянам, сьвіней камітэт падзяліў паміж сабою. Яшчэ на трэці дзень пасьля гэтага балю два паліцыянты п'яныя рабілі авантуры на станцыі, разганяючы працуючых там работнікаў і хочучы арыштаваць кіраўніка ўрадовых работаў.

Наагул крэсовыя „stosuneczki“ ад двух месяцаў зачынаюць прымаць проста скандалічныя формы. „Наварочваньне на каталіцтва“цьвіце тут ува ўсей паўнаце. Не выстарчае ўжо тое, што ў лунінецкім прытулку (да якога пан староста Кучынскі выпісаў для ўзгадаваньня праваслаўных сірот трох манашак)—намаўляюць дзяцей да прыняцьця каталіцтва, што спаткалася з моцным пратэстам дзяцей. Загадваюць два разы ў дзень маліцца за здароўе пана старосты, ягонай жонкі і дзяцей...

Але прыклад, як заўсёды йдзе зьверху. Урадовыя чыньнікі больш займаюцца ў урадовыя гадзіны палітыкай, чым справамі, прычыняючы гэтым самым шкоду Польскай дзяржаве, а перадусім кампрамітуючы ўладу ў вачох беларускай люднасьці, для якіх гэтыя ўрады, як звычайна тут кажуць ёсьць „нябывалай навасьцю“.

Вось-жа Берасьцейская паддырэкцыя Польскіх жал. дар. наладжвае для чыгуншчыкаў у гадзінах працы „odczyty“ аб патрэбе ўвядзеньня дзесяцігадзіннага дня працы на чыгунках з прычыны „дзяржаўнай канешнасьці“. Лектароў на гэтыя „лекцыі“ пан дырэктар Нелярд высылае спэцыяльнымі вагонамі.

Пан Пятроўскі, земскі камісар у Лунінцы, аб'яжджае павет і робіць палітычныя мітынгі, як гэта было ў в. Боcлыні.

Ваяводзтва натуральна водзіць рэй ўва ўсім гэтым. Ад гр. Б. Мінкевіча,чыгуншчыка ў Лунінцы, праваслаўнага, які мае жонку палячку, а дзяцей пасылае да польскае школы, жадаюць за выданьне пашпарта... прыняць каталіцкую веру.

Паны таксама ня ўступаюць у нічым каталіцкім клерыкалам. Пан Д'юкаў Цімох у в. Лапацін (Пінскага пав.) на абедні мэталічным крыжам выбіў селяніну два зубы. Прысвоіў ён сабе бадай ўсе амэрыканскія падаркі, празначаныя для галадаючай люднасьці, прадаючы паміж іншым соль спэкулянтам. Пабіў у сваім часе сямігадовага хлопца да ўтраты прытомнасьці.

У Ічыне, каля Бродніцы, тутэйшы поп заявіў сялянам, што хто без яго пахавае нябошчыка, заплаціць падвойны кошт за пахаваньне і будзе арыштаваны. Гэтак і сталася: ад аднаго селяніна, які пахаваў матку без папа, запраўды ўзяў падвойную плату і апрача таго селянін быў арыштаваны і прасядзеў 7 дзён пад арыштам.

У в. Тэлеханы, Косаўскага пав., у апошніх днях зьехаліся аддзелы паліцыі пешай і коннай. Робяць яны, як за даўных „істінно-русскіх часоў“ запраўдныя оргіі адносна да мясцовага насяленьня. Кожны дом у гэтай вёсцы атрымаў загад карміць паліцэйскіх коняў і самых паліцыянтаў.

Страшныя перажываем тут часы. Бандытызм з дня на дзень пашыраецца, паліцыя гуляе, назначаныя войты ня лічацца з патрэбамі люднасьці, а некаторыя нават акрадаюць гмінныя касы (аб гэтым у свой час я паведамляў міністэрства, але войт гэты да сёньняшняга дня сядзіць на сваей пасадзе), духавенства выклікае нездавольства люднасьці, людзей выкідаюць на брук з працы, абшарнікі адбіраюць ад сялян іх уласную зямлю, адбіраюць бясправна сэрвітуты і г. д., і г. д.

Трудна прадбачыць сёньня чым усё гэта можа скончыцца, калі запраўды ўрад заразжа ня прыступіць да радыкальнай зьмены на лепшае адносінаў на крэсах.

**Воліцкі**, *пасол Сойму*.

(„Robotnik“).

### **Тартак Жардэлі** (Вішнеўшчына).

Яшчэ так мала часу прайшло, як зарганізаваўся ў нас профэсыянальны саюз, але, калі паглядзець на тое, што ён перажыў, дык мусіць і за цэлыя гады другія таго ня бачылі. За гэтыя некалькі тыдняў свайго істнаваньня саюзу шмат прышлося выцярпець і ад адміністрацыі заводу і ад паліцыі, бо яны добра ведаюць, якая сіла—арганізаваныя работнікі і ўсе свае высілкі скіравалі, каб разьбіць гэтую сілу.

Загадчык заводу пачынае ўводзіць такія-ж прыемнасьці, якімі ён, будучы ў Гудах, разьбіў зарганізаваных работнікаў тамашняга тартаку. Але тут яму гэтага не ўдаецца зрабіць: мы добра ведаем пляны пана загадчыка. Праўда, ёсьць і сярод нас здраднікі, так далікатна ўвайшоўшыя у саюз, каб знутры ўзарваць яго. Гэтыя панскія падлізьнікі—Міхальцэвічы і Багуслаўскія—ужо атрымліваюць падтрыманьне і падзяку ад адміністрацыі за сваю здраду работнікам, і гэтыя нікчэмныя людзі маюць нагласьць крычаць на ўсіх закутках, што яны „сацыялісты“ старога гатунку.

Бо ўсе работнікі тартаку бачаць якімі прывілеямі карыстаюцца гэтыя здраднікі, хоць вялікай кваліфікацыі ня маюць; сярод нас шмат ёсьць безработных, маючых шмат лепшыя кваліфікацыі, якія-б маглі з карысьцяй для справы і прадуктыўнасьці вытворчасьці заводу замяніць гэтых шкоднікаў, але-ж наш загадчык пазурамі трымаецца за гэтых прыхвастняў, бо пры іх дапамозе хоча зьнішчыць саюз і вярнуць на тартаку старыя парадкі, якія і дагэтуль пануюць на другіх тартакох каля Вішнева.

Заклікаем нашых таварышоў па працы Валожынскага, Вішнеўскага (малога) і шмат другіх тартакоў зарганізавацца, як мы, жардэльцы, і злучыцца ў адну моцную сям'ю. Тады ня будзем працаваць па 12 гадзін ў суткі, тады лягчэй будзе нам усім змагацца з ненасытнымі апэтытамі капіталістаў, якія, дзякуючы нашаму поту і крыві, набіваюць сабе кішані і паневяраюць намі.

**Работнік П.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Канец прыёму ў Б. Д. У.** Прыём у Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт закончаны.

Цяпер паступаючыя дапускаюцца да экзаменаў толькі па спэцыяльнаму дазволу прыёмачнай камісіі.

**Заняцьці ў Пэдтэхнікуме.** Заняцьці ў Менскім Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме пачынаюцца 20-га верасьня г. г.

**Рамонт будынку Беларускага музэю.** У сучасны момант робіцца рамонт будынку Беларускага музэю (б. Архірэйскай царквы).

Прычым, хоры б. царквы будуць пашыраны і, гэткім чынам, будзе зроблены другі паверх у музэі. На першым паверху будзе этнаграфічны аддзел музэю, а на другім—царкоўна-гістарычны.

**Архэолёгічныя раскопкі на Беларусі.** Народны Камісарыят Асьветы Беларусі даручыў архэолёгам Ляўданскаму і Сушчынскаму зрабіць архэолёгічныя раскопкі курганоў у райёне Барысава.

Усе знойдзеныя пры раскопках рэчы будуць перададзены ў Беларускі Дзяржаўны Музэй.

### У храме навукі.

*(Уражаньне з Б. Д. Унівэрсытэту).*

Нібы пчолы ў вульлі, так паўнюсенька моладзі на ўсіх паверхах памяшканьня „Фона“.

Ідуць калёквіумы для паступаючых на Унівэрсытэт.

Усюды відаць маладыя загарэлыя энэргічныя твары дзяцей рабочых і сялян. Вочы блішчаць. Хочацца здаць калёквіум і папасьці на Унівэрсытэт.

З усіх куткоў Беларусі тут можна пабачыць моладзь. Вось стаіць група гамяльчан. А там вітабляне. Вось грамады случан.

—Як, хлопцы, думаеце: пападзём мы ўсе ці не ў Унівэрсытэт.

—Мне здаецца, што некаторым прыдзецца вярнуцца да хаты, бо мейсц 1000, а жадаючых паступіць 1550.

—Э, нічога, калі ў гэтым годзе некаторыя не пападуць, дык на той год прыедзем, а зімою будзем вясьці культурную працу на вёсках. Не гаруй, брат! будзем у хаце працаваць на карысьць сялян і рабочых.

Адным словам, усюды праглядвае сур'ёзнасьць. Усе ведаюць, дзеля чаго прыехалі ў Менск і ўсім хочацца папасьці ў гэную вялікую беларускую храміну навукі.

**Аляксейчык.**

# Допісы.

### Вечар ў Маскве.

У нядзелю, 2 верасьня, у залі Камуністычнага Унівэрсытэту Народаў Захаду адбыўся вялікі беларускі вечар.

Афіцыяльная частка вечару—паседжаньне было ахвяравана: адчыненьню беларускага сэктару пры ўнівэрсытэце, сходу падшэфных унівэрсытэту сялян і міжнароднаму дню моладзі.

Адчыніў паседжаньне рэктар унівэрсытэту гр. Макрэўскі.

„Няхай сёньняшні дзень—казаў ён—будзе вялікай злучнасьцю між істнуючымі студэнтамі і будучымі студэнтамі з беларускай моладзі, якая ўваходзіць ў нашу сям'ю.

Памятаю,—кажа ён,—працаваў я па асушцы беларускіх балот, на Балотнай станцыі ў Менску, на той станцыі, якая, дзякуючы ўпартай працы, дала знаць аб сабе розным краінам.

Ад імя ўнівэрсытэту кажу, што прыехаўшая да нас на ўнівэрсытэт беларуская моладзь будзе чуць сябе, як у сваёй хаце“.

Далей выступае прадстаўнік Беларускае Рэспублікі ў Маскве гр. Мароз.

Выступала нам рэктара унівэрсытэту гр. Фрумкіна. Кожная прамова бадзёра ўздымала настрой у прысутных.

Тут гартуюцца новыя беларускія сілы, якія і вывядуць Беларусь на новы шлях.

Пасьля адбыўся вялікі канцэрт. Хор Беларускага Тэатру пад кіраўніцтвам Тэраўскага ў першым аддзяленьні ўдала выканаў беларускія сьпевы рэвалюцыйнага характару.

У другім аддзяленьні дзяржаўны аркестр старасьвецкіх музыкальн. інструмэнтаў пад загадам Любімава выканаў некалькі беларускіх народных песьняў, запісаных кампазытарамі: Прохаравым, Грачанінавым, Любімавым і інш.

Добра пяяла Ірма Яунзэм. Такія №№, як: „Чаму-ж мне ня пець“ і „Калыханка“ выкананы ёю надзвычайна добра пад акампанімэнт таго-ж аркестру.

Балет Беларуск. Дзярж. Тэатру праскакаў „Юрку“ і „Лявоніху“, што бязьмерна спадабалася прысутным. Беларускі лірнік і цымбаліста сваёю ігрой зрабілі па публіку добрае ўражаньне.

У канцы зноў выступіў хор з бытавымі народнымі песьнямі.

Беларуская песьня зрабіла на усіх прысутных нябывалае ўражаньне.

Неўгамонны, бязьмернай сілы шум воплескаў сьведчыў аб вялікім зацікаўленьні ў Маскве беларускім мастацтвам.

Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.